*Хваляванні на аўтазаводзе ў Магілёве (стар. 2)*
*У кожным райцэнтры — свой «аўтарытэт» (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 40.940
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 25 лютага 1997 | № 20 | Кошт свабодны

## Гарачы сакавік

**У бліжэйшы час Беларускі народны фронт плануе правесці ў Мінску шэраг масавых акцый.**

Як паведаміў у панядзелак на прэс-канферэнцыі сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, у чацвер, 27 лютага, у 12 гадзін адбудзецца пікет каля амбасады Расіі, а ў сувязі з прыездам у Мінск на наступным тыдні вялікай дэлегацыі расійскай Дзярждумы пікетаванне амбасады, магчыма, стане штодзённым.

У нядзелю, 2 сакавіка, спаўняецца 930 гадоў Мінску. Паколькі ўлады на дзяржаўным узроўні не збіраюцца адзначаць гэтай гістарычнай даты, БНФ запрашае мінчан самім наладзіць сабе свята. У 11 гадзін людзі збяруцца на мінскім Замчышчы (ст.метро Няміга), адкуль пачнецца шэсце да Опернага тэатра, дзе адбудзецца паказ гістарычна-сучаснай драмы «Цар Аляксашка».

10 сакавіка ў 18:00 на пл.Незалежнасці Народны фронт збіраецца правесці мітынг супраць памкненняў беларускага і расійскага кіраўніцтва скасаваць незалежнасць нашай краіны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Моладзь рыхтуецца да чарговай акцыі

**Маладзёжная фракцыя БНФ рыхтуецца да правядзення 14 сакавіка ў Мінску буйной акцыі пратэсту.**

Яна будзе прысвечана трэцяй гадавіне прынятай у 1994 годзе Канстытуцыі суверэннай Беларусі.

Як і ў часе правядзення шэсця 14 лютага «Беларусь — у Еўропу», мяркуецца, што калоны пройдуць паўз амбасады замежных краін з уручэннем іх прадстаўнікам адпаведных петыцый. Праўда, удзельнікі акцыі плануюць наведаць ужо не пяць амбасадаў, як 14 лютага, а дзевяць, а таксама прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

Дарэчы, 20 лютага часовы павераны Італіі ў Беларусі П'ер Луіджы Джузепе Фераро, падчас прыёму лідэраў маладзёжнай фракцыі БНФ Яўгена Скочкі і Паўла Севярынца, звярнуўся да іх з просьбай прадастаўляць пасольству самую аператыўную інфармацыю аб парушэнні ўладамі правоў чалавека.

*БелаПАН*

## Тры пікеты – дзевяць пратаколаў

**Учора ў Мінску прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза правялі адразу тры пікеты: каля рэзідэнцыі прэзідэнта, Дома ўрада і міністэрства юстыцыі.**

Удзельнікі акцый, якія доўжыліся з 11 да 13 гадзін, пратэставалі супраць таго, што ўжо на працягу амаль чатырох месяцаў мінюст адмаўляецца рэгістраваць Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў. Сваю адмову чыноўнікі міністэрства матывуюць тым, што ў склад заснавальнікаў Кангрэса ўваходзіць Свабодны прафсаюз, дзейнасць якога забараніў Лукашэнка. Аднак, як вядома, летась Канстытуцыйны суд прызнаў, што гэтай забаронай прэзідэнт парушыў Канстытуцыю.

Пікетаванне каля Дому ўрада і міністэрства юстыцыі прайшло спакойна. А вось 9 чалавек, якія сталі ў пікеце побач з прэзідэнцкай рэзідэнцыяй, былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі Ленінскага РАУС. На іх адрасу на месцы былі складзены пратаколы. Потым пікетчыкам уручылі павесткі, каб пасля абеду яны з'явіліся ў суд Ленінскага раёна.

**В.В.**

# Жаночы пратэст пад звон каструль

**У суботу ў Мінску адбыўся марш-пратэст і мітынг супраць жабрацтва і голаду. Акцыю наладзіла Беларуская арганізацыя працоўных жанчын.**

Спачатку Мінгарвыканкам не даў дазволу на правядзенне гэтай акцыі, бо яе ўдзельнікі збіраліся прайсці ад плошчы Якуба Коласа да тэатра Янкі Купалы, які, як вядома, знаходзіцца побач з будынкам прэзідэнцкай адміністрацыі. Але літаральна за дзень да маніфестацыі гарадскія ўлады памянялі сваё рашэнне і дазволілі шэсце ад пл. Якуба Коласа да парка Горкага.

У 11 гадзін на плошчы Я.Коласа сабралася прыкладна 2 тысячы чалавек. Жанчыны прыйшлі з каструлямі і лыжкамі, былі настроены па-баявому. У 11:15 калона пад страшэнны звон парожняга посуду рушыла па тратуарах у бок парку Горкага. Дэманстранты неслі плакаты з надпісамі *«Грошы, што ідуць на ўтрыманне АМОНу, — дзецям на лекі!»*, *«Печ гарыць, вада кіпіць, ды няма чаго варыць»*, *«Женщины! Отступать некуда: за нами дети»*, *«Мужики! Встаньте с колен! Мы любим героев, а не холуев!»*. Рух калоны, як заўсёды, здымалі на відэакамеры міліцэйскія аператары.

Прыкладна праз паўгадзіны маніфестанты падышлі да пляцоўкі ў парку Горкага, дзе звычайна праводзяць свае акцыі камуністы. Найбольш радыкальна настроеныя ўдзельніцы маршу патрабавалі ад арганізатараў ісці да адміністрацыі прэзідэнта. Намесніцы старшыні арганізацыі працоўных жанчын Марыі Аліевай каштавала немалых намаганняў угаварыць людзей застацца ў парку.

На мітынгу выступілі дэпутат Вярхоўнага Савета Людміла Гразнова, актывісткі жаночых арганізацый і проста жанчыны, якім хацелася выказаць набалелае. Увагу людзей прыцягнуў вядомы ідэалагічны баец і працаўнік з насельніцтвам Віктар Чыкін, які раптоўна з'явіўся на мітынгу. Ён заявіў журналістам, што прысутнічае на акцыі па рашэнні Мінгарвыканкама і павінен тут сачыць за парадкам. Народ трохі паспрачаўся з галоўным сталічным ідэолагам, а потым пад кастрычныя звон і воклічы *«Ганьба Чыкіну!»* праводзіў «працаўніка» за паркавую браму.

Так пачынаўся суботні «марш парожніх каструль» з плошчы Я.Коласа. У парку Горкага (на здымку ўнізе) жанчыны эмацыянальна паразмаўлялі з намеснікам мэра Мінска Віктарам Чыкіным.

Пасля заканчэння мітынгу група актывістак Беларускай арганізацыі працоўных жанчын у суправаджэнні журналістаў і міліцыі прайшла да прэзідэнцкай адміністрацыі і перадала рэзалюцыю, у якой выказваўся пратэст супраць нізкай зарплаты і росту цэн, жаночага беспрацоўя, зніжэння выдаткаў на сацыяльную сферу і іх павышэння на ўтрыманне прэзідэнцкай наменклатуры і спецслужб. *«Прэзідэнт! Калі не можаш даць людзям магчымасці жыць па-чалавечы — сыходзь, не займай чужога месца!»* — такімі словамі завяршаецца рэзалюцыя.

Лукашэнка, на жаль, не пачуў голасу «любімых жэнчын». Уся прэзідэнцкая адміністрацыя на чале са сваім шэфам у гэты час каталася на лыжах у Раўбічах.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Завхоз» збірае жылплошчу

### *Ведамства Ціцянкова атрымала ў якасці падарунка кватэры коштам на 1.500 рублёў*

Многіх работнікаў культуры, якія нядаўна пасяліліся ў «прэзідэнцкім» доме, прымусілі падараваць свае ранейшыя кватэры кіраўніцтву справамі адміністрацыі прэзідэнта.

У мінскім мікрараёне Малінаўка ёсць асобы дом, які празвалі «прэзідэнцкім» (хаця Рыгоравіч тут не жыве). Лукашэнка «падарыў» гэты 9-павярховы дом работнікам культуры.

Яшчэ 5 кастрычніка мінулага года на вул.Слабадской ладзілася ўрачыстая цырымонія здачы гэтага дома асабіста прэзідэнту. Дом здалі, паказалі па тэлебачанні і зачынілі на замок. Пуставалі кватэры на працягу трох месяцаў, бо ў прэзідэнцкай адміністрацыі працягваўся падбор кандыдатур для засялення. Напрыклад, не абышлі ўвагай такога заслужанага культработніка, як Юрый Азаронак. Аднак дзяльба кватэраў зацягвалася, мышыная валтузня вакол дома ўзмацнялася. Кватэр у прэзідэнцкім доме мала (усяго 249), а прэтэндэнтаў станавілася ўсё больш і больш. У рэшце рэшт кватэрнае пытанне пачало псаваць і прэзідэнцкую адміністрацыю.

Вось што расказаў адзін работнік культуры, які атрымаў кватэру ў прэзідэнцкім доме. Аказваецца, яму далі ордэр толькі пасля таго, як ён згадзіўся падараваць сваю ранейшую кааператыўную (цалкам выплачаную) кватэру ведамству Івана Ціцянкова. У абмен на ордэр у «прэзідэнцкім» доме навасёла вымусілі заключыць з кіраўніцтвам справамі прэзідэнта дамову, дзе гаварыцца, што грамадзянін *N* «дорыць» сваё жыллё, а кіраўніцтва справамі «прымае ў дар» кватэру. Кошт падарунка ацэнены ў дамове ў 1.500 (адна тысяча пяцьсот) рублёў. Чалавек быў пастаўлены перад выбарам — або дорыш кватэру і атрымліваеш новую, або застаешся пры сваіх інтарэсах. Тыя, хто аформіў «дарственную», цяпер лічаць, што іх абабралі. А хто не згадзіўся падарыць сваё ранейшае жыллё (як, напрыклад, мастак-мультыплікатар «Беларусьфільма» Алена Руднева), новыя кватэры так і не атрымалі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Ад такога жыцця можна і звар'яцець

**Сумная гісторыя здарылася з работніцай мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл» Тацццянай Т.**

З нервовай хваробай яна трапіла ў псіхіятрычную клініку ў Навінках пасля таго, як атрымала разліковы лісток з зарплатай у 80 тысяч рублёў.

Зарабляючы 200-300 тысяч рублёў (а менавіта такая сярэдняя зарплата ў 41-м цэху, дзе працуе Тацццяна), проста немагчыма адной пракарміць дваіх малалетніх дзяцей, адзець, абуць іх ды яшчэ за кватэру заплаціць. Акрамя таго, нядаўна Тацццяна была прыцягнута да судовай адказнасці, бо не змагла своечасова заплаціць за ўзяты на пракат старэнькі халадзільнік. Усе гэтыя акалічнасці і давялі, урэшце, маладую жанчыну да бальнічнага ложка.

Дзіўна, што ў гэтай сітуацыі адміністрацыя «Інтэграла» не зрабіла нічога, каб дапамагчы сваёй работніцы, а ўсе клопаты па ўтрыманні дзяцей Тацццяны, пакуль яна знаходзіцца ў шпіталі, узялі на сябе яе калегі з участка фоталітаграфіі, якія і самі атрымліваюць мізэрныя зарплаты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Слонімскі «Смірнофф»

**У Слоніме з'явілася ў продажы новая асобая гарэлка з назвай «Сікорскі».**

На бутэлечнай этыкетцы змешчаны каляровы партрэт Жана Сікорскага, дырэктара Слонімскага вінзавода. Цікава, што выпуск новай гарэлкі Жан Феліксавіч прымеркаваў да дня свайго юбілею. У гэтыя выходныя дні дырэктару вінзавода якраз «стукнула» 60 гадоў. Цяпер слонімцы надоўга запомняць дзень нараджэння самага паважанага жыхара райцэнтра сп.Сікорскага.

**Валодзя ЯНЧУК**

**Падпісацца на СВАБОДУ можна ў любым паштовым аддзяленні**
**Падпісная кампанія завяршаецца 10 сакавіка**

# Между Сапегой и Машеровым

*К вопросу о якобы новом облике президента Лукашенко*

**Семен БУКЧИН**

Идеологические имиджмейкеры решили, что пришла пора укрупнить и придать философскую значительность портрету белорусского правителя. Исполнение заказа поручили человеку опытному и надежному — главному редактору газеты «Советская Белоруссия» Павлу Якубовичу. Работа была предъявлена общественности в трех номерах президентского органа под эпохальным заголовком «Большое видится на расстоянии. Президент страны — о главном» («СБ», 6 — 8 февраля 1997 г.).

Вопросы и ответы, сама стилистика этого обширного, призванного дать новую пищу умам произведения говорят о крайнем напряжении интеллектуальных ресурсов исполнителя ответственнейшего задания. Все, что знал о жизни, вычитал и выстрадал, бросил Павел Изотович в высочайшую идеологическую топку. Запасы, правда, оказались невелики. Но уж, как говорится, что есть — то есть...

И вот со страниц «Советской Белоруссии» перед нами встает образ не какого-то провинциально-примитивного директора совхоза, не придурковатого Луки Мудищева и не «конюха» (известные обидные характеристики, налепленные врагами), а Мудреца, действительно постигшего тайну жизни, великого диалектика, заботливого отца народа, потрясающего интеллектуала.

Все, абсолютно все доступно его пониманию, его проникновенному взору! Как нежно, по-отечески журит он *«замечательного писателя Василя Быкова»*, как *«сожалеет, что как-то не сложились отношения...»* А почему, собственно, не сложились? А потому, что со школьных времен усвоил Александр Григорьевич (вместе с Павлом Изотовичем) великую истину советской идеологии, согласно которой писатели должны писать, а не лезть в политику. Из замшелых глубин марксизма-ленинизма извлекается эта горячая убежденность: *«Даже гениальный Лев Николаевич Толстой, даже Александр Исаевич Солженицын, сменившие письменный стол на трибуну, многое потеряли в глазах современников»*.

То, что публицистика Толстого стала явлением мировой гуманистической мысли, это для Лукашенко не факт. Лучше бы еще одну «Анну Каренину» написал. Одним словом, был бы жив Лев Толстой, и он получил бы от Рыгоровича втык. И с Солженицыным, будь он гражданином Беларуси, провели бы соответствующую работу в следственном изоляторе КГБ или МВД. У нас ведь разговор известный: чуть что — в наручники! Что уж тут о Быкове говорить... Впрочем, Быкову еще милостиво оставлен шанс: *«Я, во всяком случае, всегда открыт для Василия Владимировича»*. Представляете, Он сам, собственной персоной, всегда открыт *«для Василия...»* А тот почему-то не спешит припасть к царственным стопам.

От этой чудовищной смеси бестактности, самоуверенного невежества и воинственного бескультурья сводит скулы. Но что поделаешь? Каков царь — таков и псарь.

Этот же мощный интеллектуальный напор ощутим и в «исторических раздумьях» белорусского правителя. Имиджмейкеры посчитали, что пришла пора сделать его наследником традиций Великого княжества Литовского. Отобрать, так сказать, у Пазьняка древний жезл. Но сделано все по меркам той же советской диалектики. Выстраивается замечательный исторический ряд: Евфросиния Полоцкая, Лев Сапега, Скорина, Богданович, Купала и Колас, Машеров, Максим Танк, «герои Отечественной войны и жертвы Чернобыля». Почему «жертвы Чернобыля» должны стоять рядом со Скориной и Танком? А это продолжение старой советской традиции, когда экскурсоводы в Хатыни с гордостью подчеркивали, что в Беларуси в войну погиб каждый четвертый. «Жертвы Чернобыля» — это наше национальное богатство.

Где-то между Сапегой и Машеровым, видимо, уготовано место и Лукашенко. Тем более, что наш правитель, как обычно ничуть не стесняясь, сам поставил себя рядом с канцлером и великим гетманом литовским. Так и заявил: *«Так, что сегодня мне, как некогда, возможно, канцлеру Сапеге, время задает очень непростой вопрос: кто мы, откуда, куда идем?»* Впрочем, вопрос этот не более чем поза. Ибо ответ задающему его хорошо известен: *«плечом к плечу с Россией, в дружбе с Украиной и другими соседями»* — в Европу. Что ж, сегодня только самый темный не кричит, что он жаждет стать «полноправным членом европейской семьи». Чем Лукашенко хуже других? Он тоже желает в Европу... Вот только канцлер Сапега не одобрил бы этого способа — «плечом к плечу с Россией». Патриот своего государства, Лев Сапега поддерживал интервенцию Речи Посполитой в России и выдвижение Лжедмитрия I.

Получается, опять подвели идеологические имиджмейкеры белорусского правителя. Подсунули ему в исторические предшественники и духовные собратья деятеля, отнюдь не пылавшего любовью к «братской России». Конфуз...

Г.Турович в основательной по историческому оснащению статье в СВАБОДЗЕ (21 февраля) пишет, «что имя Льва Сапеги из уст Александра Григорьевича прозвучало совсем не случайно». Полагаю все же, что ни самому Рыгоровичу, ни его идеологической обслуге и в голову бы не пришла идея сделать лукашенковскую конституцию 1996 г. неким продолжением разработанного Львом Сапегой Статута Великого княжества Литовского. Это для них слишком сложно, требует глубоких знаний.

Дело обстоит гораздо проще: хочется чего-то такого красивого, надежного, исторически основательного. Чтобы корни были. Поэтому сегодня Гитлера берем в исторические образцы, завтра — Сапегу. Смотря по обстоятельствам... Вот и влипли опять.

Нет, чтобы на истфаке БГУ проконсультироваться или в Академии наук. Но это, безусловно, был бы подрыв авторитета Павла Изотовича. Главный редактор «СБ» лучше знает, какие фигуры и когда привлекать для создания нужного идеологического фона.

Со страниц того же интервью в «СБ» на нас смотрит главнейший суверенщик Беларуси. Какая там шапка Мономаха? Клевета все это, поскольку мы *«не собираемся никуда инкорпорироваться ни в ранге ландграфства, ни губернии»*.

Какой словарь! Какие термины! Инкорпорироваться! Ландграфство! Сразу видно образованных людей. Замечательные слова! Но ведь мы помним и о других словах. В феврале 1995 г. после встречи с одним из лидеров российских шовинистов генералом Стерлиговым г-н Лукашенко объявил: *«Беларусь для меня — пройденный этап!»* А в прошлом году на встрече с ветеранами в Орше было сделано не менее замечательное признание: *«Я уже вернул вам красный флаг и теперь сделаю все возможное, чтобы в самый короткий срок вернуть вам наше общее отечество!»*

Интервью в «СБ» рисует портрет горячего друга Бориса Ельцина, прекрасно понимающего, что его поражение на выборах *«создало бы принципиально новый политический ландшафт»*. Но разве не этот же друг публично заявил: *«Счастье Ельцина, что его конкурентом был Зюганов, а не Лукашенко. В этом случае итог был бы другой: 75% — за Лукашенко, 25% — за Ельцина»*. А помощник друга г-н Посохов добавил: сейчас, мол, идет процесс *«умирания Ельцина»* и *«у Александра Григорьевича есть прекрасный шанс возглавить единое государство»*.

Сегодня нам предлагается забыть все эти высказывания. Конечно, тогда была одна конъюнктура, сегодня — другая. Мы ведь люди без памяти. Зомби. Ничего помнить не должны. 7 марта Лукашенко будет снова целоваться и обниматься с Ельциным. Это самое главное.

Выясняется, что нынче наш правитель до чрезвычайности озабочен *«определенными перекосами в сторону сокращения сферы употребления белорусского языка»* и очень надеется *«на доброжелательную помощь наших писателей — горячих ревнителей белорусского языка»*.

Вот как повернуло! А как же быть с этими словами: *«По-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык. На свете есть только два великих языка — русский и английский»* («Народная газета», 1 февраля 1995 г.) ?

Ну мало ли что человек сказал? Сегодня одно, завтра — другое. Жизнь-то не стоит на месте. Главное — говорить, говорить, говорить... Что было вчера — никто не помнит. А уж идеологической обслуге и вовсе не полагается заглядывать во вчерашние высказывания правителя. Ее дело — наводить лоск сегодня. За это платят, за это треплют по холке... За то, что службу правильно понимают.

# Товарищи Скорина и Федоров

**Пока еще никто не увидел никакого толку от Сообщества Беларуси и России. Тем не менее организация существует и рождает все новые проекты.**

Еще в сентябре прошлого года было принято решение выпустить монету, посвященную этому странному объединению.

Проект монеты был разработан в Беларуси и послан на рассмотрение в Россию. Как сообщалось в сопроводительном письме, *«в основу концепции монеты положена идея единения славянских народов через гуманизм, свободомыслие и патриотизм эпохи возрождения...»* Адептами единения славянских народов почему-то были избраны Франциск Скорина и Иван Федоров. По мнению разработчиков, *«многогранная деятельность Скорины и Федорова, которая протекала на территории многих стран в самом разнообразном окружении, убедительно показала, насколько чужда была им религиозная, национальная, сословная и профессиональная ограниченность»*.

Можно догадываться, что у монеты, кроме «панславистской» направленности, есть и скрытый подтекст — как бы там ни было, но Иван Федоров шел по стопам Франциска Скорины и до его уровня не дотягивает. Болезненное же самолюбие Лукашенко постоянно требует пусть и мелкого, но утверждения его превосходства «первопроходца интеграции».

Проект монеты разработан, но дальнейшая его судьба пока неизвестна.

**Алесь САДОВСКИЙ**

*На снимке: эскизный прект золотой монеты (натуральный размер)*

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
1997
... РУБЛЁЎ
СООБЩЕСТВО БЕЛАРУСИ И РОССИИ
2 АПРЕЛЯ 1995

*ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ*

# Арифметика и политика

Сколько будет дважды два? Был задан такой вопрос в знаменитом анекдоте, на что последовал не менее знаменитый ответ: «А сколько вам нужно?»

Такие мысли приходят в голову после просмотра передач Белорусского телевидения, посвященых различным массовым мероприятиям. Смотришь на экран, слушаешь комментарий и никак не можешь отделаться от мысли, что выступающие не в ладах с арифметикой.

То, как десятки тысяч демонстрантов превращаются в тысячи, мы слышали неоднократно из уст президента (если эти демонстрации имели неугодную властям направленность). Но то, как прокомментировал в субботнем выпуске новостей «марш пустых кастрюль» заместитель председателя горисполкома по работе с населением товарищ Чикин, не мог бы позволить себе даже такой известный персонаж, как барон Мюнхгаузен.

Итак, попробуем процитировать и сделать несложные математические расчеты. По словам т.Чикина, на митинге присутствовали 250 человек, из них женщин не более 10%, т.е. 25 человек. Вот это да!

Будем надеяться, что в следующий раз т.Чикин назовет их пофамильно, с указанием места работы и жительства — чтобы всем было ясно, что только эти 25 женщин дестабилизируют обстановку в Беларуси, не хотят честно трудиться и наполнять свои кастрюли.

*Телезритель* **СКОВОРОДКИН А.Г.**

# Чулі, але не чыталі

Дзень добры, паважаная рэдакцыя СВАБОДЫ!

Напэўна, вас здзівіць мая просьба. Рэч ў тым, што я працую настаўніцай у вясковай школе. У праграме па беларускай літаратуры ў 11 класе ёсць тэма «Сучасная беларуская паэзія». Вельмі хацелася б пазнаёміць вучняў з творчасцю Славаміра Адамовіча. Прашу вас дапамагчы: калі можна, дашліце мне тэкст яго верша «Убей президента» і біяграфічныя звесткі пра паэта.

Загадзя ўдзячная **С.ТРАФІМОВІЧ**

КАДРЫ

## Амерыка, мая Амерыка

**Днямі Полацк наведала аташэ па пытаннях культуры, інфармацыі і адукацыі пасольства ЗША ў Беларусі Джанэт Дэмірэй.**

Мэтай яе візіту было адкрыццё выставы «Амерыка, мая Амерыка» амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Тамары Стагановіч. Падчас прэзентацыі выставы ў мясцовым музеі беларускага кнігадрукавання сп-ня Дэмірэй зачытала ліст мастачкі да землякоў-палачанаў. У ім Тамара Стагановіч выказвае надзею, што ў хуткім часе сама наведае родныя мясціны.

*БелаПАН*

## Польшча – Украіна – Беларусь

*21 лютага ў Варшаве завяршыў працу першы міжнародны форум моладзі Беларусі, Польшчы і Украіны*

У адпаведнасці з дагаворам аб супрацоўніцтве паміж няўрадавымі грамадскімі арганізацыямі Польшчы, Беларусі і Еўраатлантычнай радай Украіны, які стаў галоўным вынікам форуму, мяркуецца стварэнне агульнай інфармацыйнай прасторы ў трохкутніку Польшча—Украіна—Беларусь, абмен спецыялістамі ў розных галінах, маніторынгавыя даследаванні, сумесная выдавецкая дзейнасць. Старшыня Еўраатлантычнай рады Польшчы, былы прэм'ер-міністр Польшчы Тадэвуш Мазавецкі ў выступленні перад маладзёжнымі дэлегацыямі трох краін выказаў упэўненасць, што знешняя палітыка Польшчы заўсёды будзе накіраваная на пашырэнне супрацоўніцтва з Украінай і Беларуссю і пры гэтым *«ніколі не будзе антырасійскай»*.

*БелаПАН — УНІАН*

## Да ўвагі чытачоў

У рэдакцыю тэлефануюць жыхары Мінска і скардзяцца, што ў газетных кіёсках СВАБОДА вельмі хутка раскупляецца і яны не могуць набыць газету. Чытачы просяць даваць у продаж большую колькасць экзэмпляраў. Рэдакцыя гатовая гэта зрабіць, але кіраўніцтва «Белсаюздруку» катэгарычна адмаўляецца браць у продаж больш экземпляраў СВАБОДЫ.

Таму нам нічога не застаецца, як нагадаць чытачам, што на СВАБОДУ можна падпісацца. Праўда, гэты варыянт чамусьці не ўсіх задавальняе. Чаму? Рэдакцыя хоча высветліць гэта шляхам апытання мінскіх чытачоў СВАБОДЫ — тых, якія не выпісваюць, а менавіта купляюць нашую газету ў кіёсках. Просім Вас адказаць на наступныя пытанні.

***Як часта Вы купляеце СВАБОДУ:***

- ☐ *рэгулярна*
- ☐ *раз на тыдзень*
- ☐ *рэдка*
- ☐ *іншае* ____________

***Чаму Вы не выпісваеце СВАБОДУ:***

- ☐ *не задавальняе, што пошта дастаўляе газету позна*
- ☐ *газета прападае з паштовай скрынкі*
- ☐ *прызвычаіліся купляць у кіёску*
- ☐ *не маеце грошай, каб адразу заплаціць усю суму за падпіску*
- ☐ *баіцеся страціць грошы, мяркуючы, што СВАБОДУ могуць забараніць*
- ☐ *іншыя прычыны (якія?)* ____________

**Свае адказы дасылайце на адрас: 220088, г.Мінск, вул.Іванаўская, д.56, рэдакцыя газеты СВАБОДА (анкета).**

**Адказы на анкету можна даць і па тэлефоне, пазваніўшы ў рэдакцыю (тэл. 236-24-41).**

СПОРТ

# Дзесятае золата Алены Вяльбе

**ЛЫЖЫ: РАСІЙСКІЯ ЗОРКІ**

У Транхэйме (Нарвегія) праходзіць чарговы чэмпіянат свету па лыжных відах спорту. На лыжні дамінуюць расіяне, якія выйгралі ўсе разыграныя пакуль залатыя медалі.

У мужчынскай гонцы на 30 км вольным стылем 32-гадовы Аляксей Пракурораў перамог праз 9 гадоў пасля свайго алімпійскага поспеху. Нарвежцы Б'ёрн Дэлі і Томас Альсгард задаволіліся срэбным і бронзавым медалямі. Беларускія лыжнікі Вячаслаў Плаксуноў — на 31-м, Сяргей Далідовіч — на 35-м, Аляксандр Саннікаў — на 41-м, Мікалай Семяняка — на 70-м месцах сярод болей чым 90 лыжнікаў.

У 15-кіламетровай гонцы ў жанчын знакамітая Алена Вяльбе апярэдзіла сваіх заўсёдных саперніц італьянку Стэфанію Бельмандо і Кацярыну Нойманаву з Чэхіі. А ў самай кароткай гонцы чэмпіянату — на 5км — лепшай стала пяціразовая алімпійская чэмпіёнка Любоў Ягорава, якая каля трох секунд выйграла ў Вяльбе і пяць — у Бельмандо. На жаль, нашы лыжніцы ў чэмпіянаце не ўдзельнічалі.

Германскі «лятун» з трампліна Дзітэр Тома прадэманстраваў самыя далёкія скачкі — на 100 і 99 метраў, аднак заняў толькі 22-е месца, бо 18-гадовы фінскі юнак Янэ Аханэн, наадварот, менавіта заключным скачком забяспечыў сабе першынство (98,5 м), на якое пасля восьмага выніку ў першай спробы (95,0) ужо і не разлічваў. Кампанію на п'едэстале яму склалі японец Масахіка Харада і аўстрыец Андэас Гольдбергер.

Вельмі роўна і моцна выступіў у паўночным дваябор'і Кэндзі Агівара з Японіі. Паказаўшы другі вынік у скачках з трампліну, Агівара ўпэўнена прайшоў гонку на 15 км і фінішаваў на 31 секунду раней за нарвежца Б'яртэ Энгена Віка і на 1 хвіліну 20 секунд наперадзе алімпійскага чэмпіёна Альбервіля Фабрыса Гі (Францыя). Не пашанцавала беларусу Дзмітрыю Захаранку. Пасля скачкоў ён займаў 31-е месца сярод 62 спартсменаў, аднак да гонкі дапускаліся толькі 30 лепшых.

**ХАКЕЙ: ЧВЭРЦЬФІНАЛЫ**

Пачаліся чвэрцьфінальныя серыі плэй-оф ва Усходнееўрапейскай хакейнай лізе.

Пасля таго, як кіеўскі «Сокал» дамогся нескладанай перамогі ў літоўскім Электрэнаі над «Энергіяй» — 9:2, літоўцы, зразумеўшы безнадзейнасць сітуацыі, адмовіліся ехаць у Кіеў. Уяўляеце, калі б «Дэтройт» адмовіўся ляцець у Лос-Анджэлес?!

Мінскае «Юнацтва» сенсацыйна абыграла дома гродзенскі «Нёман» — 2:1, рыжскі «Юніёрс» перамог мінскія «Цівалі» — 5:2, а наваполацкі «Палімір» — кіеўскую «Ільдзінку» — 7:2. Чвэрцьфінальныя серыі, нагадаем, вядуцца да дзвюх перамог.

**ВАЛЕЙБОЛ: «СПАДАРОЖНІК» СЫХОДЗІЦЬ З АРБІТЫ**

Прайграўшы галандскаму «Алькому» — 0:3, валейбалісты віцебскага «Спадарожніка» занялі ў групавым турніры Кубка кубкаў толькі перадапошняе, 7-е месца.

**ШАХМАТЫ: ЧАКАЕЦЦА СЕНСАЦЫЯ**

На мужчынскім чэмпіянаце краіны па шахматах, які праходзіць у сталічным Палацы шахмат і шашак, пасля 6 тураў склалася зусім нечаканая сітуацыя.

Адзіным, хто не прайграў ніводнай партыі, застаецца міжнародны майстар з Бабруйска Герман Качаткоў. Больш таго, ён аднаасобна лідзіруе з вялікім адрывам: у яго 5,5 ачка, у магіляўчаніна Пятра Карзубава — 4. І толькі трэцяе–пятае месцы дзеліць пакуль грасмайстарскае трыю Андрэй Кавалёў (Віцебск), Вячаслаў Дыдышка і Юрый Шульман (абодва — Мінск) — па 3,5 ачка. Яшчэ адзін грасмайстар — Віктар Купрэйчык мае толькі 2 ачкі і дзеліць месцы с 8-га па 12-е.

**КАНЮХАЎ — НА КІЛІМАНДЖАРА**

Расійскі падарожнік Фёдар Конюхаў пачаў з палярных вандраванняў, у прыватнасці, з пакарэння Паўночнага полюса. Затым было пакарэнне Паўднёвага полюса, кругасветнае адзіночнае плаванне на яхце. І вось цяпер новы праект — пакарэнне самых высокіх кропак усіх кантынентаў.

На Джамалунгме (Азія, 8.848 метраў), Эльбрусе (Еўропа, 5.642 м), Аканкагуа (Паўднёвая Амерыка, 6.960 м), Вінсан (Антарктыда, 5.140 м) ён ужо пабываў. У мінулы аўторак ён пакарыў вышэйшую кропку Афрыкі Кіліманджара (5.895 м). Застаюцца гара Касцюшкі ў Аўстраліі (2.234 м) і пік Мак-Кінлі ў гарах Аляскі (Паўночная Амерыка, 6.194 м). Дарэчы, штурм Мак-Кінлі лічыцца ў альпінісцкім асяродку справай вельмі складанай і рызыкоўнай.

**Сямён ПЛОЦ**

ЗДАРЭННІ

## Махлярскія гастролі

**На станцыі Скрыбаўцы Шчучынскага раёна міліцыяй затрымана аферыстка, якая ажыццявіла махлярскую паездку па чатырох раёнах Гродзенскай вобласці: Карэліцкім, Навагрудскім, Лідскім, Шчучынскім.**

Прадстаўляючыся работніцай райсабеса, яна вымантачвала ў старых людзей грошы, абяцаючы забяспечыць іх танным палівам і прадуктамі. У Карэлічах, дзеля большай пераканаўчасці, махлярка гаварыла пенсіянерам, што яе муж працуе ў міліцыі. У выніку атрымала 370 і 200 тысяч рублёў. Не адмаўлялася і ад меншых сумаў. Але адна бабулька, даўшы ёй мільён рублёў, апомнілася і паведаміла ўчастковаму.

Асоба махляркі устаноўлена. Яна жыхарка г.Барысава, 1959 г. нараджэння. Ужо мела судзімасць за падобныя справы. Жанчына карысталася пашпартам, скрадзеным у работніцы шчучынскай гасцініцы. Дзякуючы свайму падабенству (апроч розніцы ў гадах) яна нават здымак у пашпарце не мяняла.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Пракурор астаўся без пісталета

**У Брэсце абрабавалі кватэру памочніка раённага пракурора.**

Злодзей залез у ягоную кватэру праз адчыненую фортку, калі пракурор быў на працы. Такім жа шляхам злачынца і знік, прыхапіўшы з сабой аўдыё- і відэатэхніку, 1 млн. рублёў, 150 долараў, а таксама зарэгістраваны пісталет калібру 9,6 мм.

**Анатоль МІРСКІ**

## Стасік-падрыўнік

**У Лідзе пяцікласнік Стасік Б. прынёс у сярэднюю школу № 3 баявы снарад ад зенітнай авіягарматы.**

У школьнай майстэрні ён разам са сваім сябрам замацаваў снарад у цісках і стаў разбіраць яго на часткі. Настаўнік схапіў іх тады, калі «падрыўнікі» ўжо адкручвалі ўзрывальнік снарада. Спецыялісты адзначаюць, што яшчэ колькі секунд — і ўсё магло закончыцца трагічна.

Яшчэ адзін такі снарад міліцыя знайшла ў Стасіка на кватэры. Хлопчык не гаворыць, дзе ўзяў снарады. Міліцыя ж лічыць, што хутчэй за ўсё гэтыя небяспечныя цацкі школьнік знайшоў на тэрыторыі расійскай вайсковай авіябазы, якая раней дыслакавалася каля Ліды.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Юра–аўтаматчык

**Лідскі раённы суд даў тры гады турмы мясцоваму жыхару 34-гадоваму Юрыю Жукоцкаму, які займаўся вытворчасцю зброі.**

У падвале шматпавярховага дома ён стварыў майстэрню, дзе выраблю зброю. Падчас вобыску міліцыя знайшла там аўтамат ППШ, пісталет «маўзэр», звыш тысячы патронаў рознага калібру, 4 толавыя шашкі, каля 10 снарадаў ды іншыя падобныя «цацкі».

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Начныя стрэлы ў Рэчыцы

**На мінулым тыдні ў райцэнтры Рэчыца Гомельскай вобласці пацярпелі двое міліцыянтаў.**

Трагедыя адбылася ноччу, калі дзяжурная група на адной з вуліц горада спыніла двух падазроных мужчын для праверкі дакументаў. Нечакана адзін з іх выхапіў пісталет з глушыцелем і адкрыў агонь. У выніку два міліцыянты (25- і 30-гадовага ўзросту) былі паранены.

Злачынцы пакуль не затрыманы.

**Анатоль МІРСКІ**







© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 41.050
Нумар падпісаны ў друк 24.02.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 269